Год V. Студзень-Люты 1936 г. № 1-2 (49-50)




Ты єси Петръ,
и на семъ камени созиждѹ церковь мою. Мат. ЅІ. ИІ.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Вільня. Студзень-Люты 1936 г. № 1-2 (49-50).



СЬВЯТЫ АЙЦЕЦ ПІИ XI.

# Нядзеля Мясапустная.

## ЭВАНГЕЛЬЛЕ

### ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ РАЗЬДЗ. 25, 31—46; ЗАЧАЛА 106.

*31. Сказаў Госпад: Калі Сын Чалавечы прыйдзе
ў сваёй славе, а з ім усе сьвятыя анёлы, тады за-
сядзе на сталіцы свае славы:*
*32. І зьбяруцца перад Ім усе народы: і разлу-
чыць іх адных ад другіх, як пастыр адлучае авец ад
казлоў;*
*33. І паставіць авец направа ад сябе, а казлоў
налева.*
*34. Тады скажа Цар да тых, што будуць на-
права ад Яго: Хадзеце, багаслаўленыя ў майго Айца,
атрымайце царства, прыгатаванае для вас ад закла-
дзінаў сьвету.*
*35. Бо я быў галодны, а вы далі Мне есьці; быў
спрагнены, а вы Мяне напаілі; быў я падарожным,
а вы Мяне прынялі.*
*36. Нагі, а вы Мяне прыадзелі; хворы, а Мяне
адведалі; у вязьніцы, а вы прыйшлі да Мяне.*
*37. Тады справядлівыя адкажуць Яму: Госпадзе,
калі мы бачылі Цябе галодным — і накармілі; ці
спрагненым — і напаілі Цябе?*
*38 І калі мы бачылі Цябе падарожным — і пры-
нялі; ці нагім, і прыадзелі?*
*39. І калі мы бачылі Цябе хворым, ці ў вязь-
ніцы, і прыйшлі да Цябе?*
*40. А Цар адкажа ім: Сапраўды кажу вам:
колькі разоў вы зрабілі што аднаму з гэтых маіх
братоў найменшых, вы зрабілі Мне.*
*41. Тады скажа і тым, што будуць у Яго налева:
Адступеце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, пры-
гатаваны для д'ябла і яго ных анёлаў!*
*42. Бо я быў галодным, а вы не далі Мне
есьці; быў спрагнены, — а вы Мяне не напаілі;*

*43. Быў Я падарожным, — а вы Мяне не прынялі; нагі — а не прыадзелі Мяне; хворы і ў вязьніцы, — а не адведалі Мяне.*

*44. Тады адкажуць Яму і тыя: Гоcпадзе, калі-ж мы відзелі Цябе галоднага, ці спрагненага, ці падарожнага, ці нагага, ці хворага, ці ў вязьніцы, а ня прыслужыліся Табе?*

*45. Тады адкажа, ім: Сапраўды кажу вам: скольні разоў вы не зрабілі гэтага аднаму з гэтых найменшых, дык і Мне не зрабілі.*

*46. І пайдуць гэтыя на вечную муку, а справядлівыя ў вечнае жыцьцё.*

---

*За тыдзень пачнецца Вялікі Пост. Каб падрыхтаваць верных да посту, сьвятая царква сягодня чытае эвангельле аб страшным судзе.*

*У канцы сьвету зьбяруцца перад Ісусам Хрыстом усе людзі. Тыя, што ўжо паўміралі, на апошні суд уваскроснуць. „І разлучыць адных ад другіх, як пастыр адлучае авец ад казлоў; і паставіць авец направа ад сябе, а казлоў налева". Страшны момант разьдзелу, разлучэньня назаўсёды, — разлучацца дзеці ад бацькоў сваіх, сёстры ад братоў, разлучацца паміж сабою найбліжэйшыя і больш ужо не спаткаюцца ніколі.*

*Зараз-жа Найсправядлівейшы Судзьдзя— Ісус Хрыстос скажа тым, што направа: „Хадзеце багаслаўленыя у Майго Айца, атрымаеце царства, прыгатаванае для вас ад закладзінаў сьвету".*

*Пасьля зьвернецца са страшным прысудам да тых, што будуць налева: „Адступеце ад Мяне, праклятыя, ў агонь вечны, прыгатаваны для д'ябла і ягоных ангелаў".*

*Канчаецца апісаньне страшнага суда гэткімі словамі: „І пайдуць гэтыя на муку вечную, а справядлівыя ў вечнае жыцьцё".*

*Усіх людзей, бяз вынятку, і нас таксама чакае удзел быць направа або налева на страшным судзе. Кожны з нас пэўна што жадае быць паміж багаслаўленымі, не хацеў-бы назаўсёды загубіць душу сваю ў пекле. Трэба нам дзеля гэтага зразумець прычыны, якія паслужылі адным да шчасьця вечнага, а другім да вечнае мукі.*

*У сягоньняшнім апісаньні страшнага суда, паводле сьв. эвангелістага Мацьвея, мы бачым толькі адну прычыну: міласэрдзе для бліжніх паслужыла за прычыру вялікай нагароды ў небе, Ісус Хрыстос скажа ім: „скольні разоў вы зрабілі што аднаму з гэтых Маіх братоў найменшых, вы зра-*

*білі Мне". Вялікая-ж кара ў пекле, наадварот, празначана тым, што ня маюць літасьці, неміласэрныя для бедных.*

*Ня толькі з недахопу міласэрдзя будзем суджанымі, але з усіх нашых грахоў, усе нашыя справы будуць разважаны, усё пайдзе на вагу справядлівасьці Божай. За найменшы добры ўчынак, за кубак вады, дадзенай у імя Госпада Ісуса Хрыста, чакае нагарода. Таксама за кожны ўчынак, нават за кожнае слова трэба будзе даць адказ на судзе Божым. Вось словы самога Ісуса Хрыста: „Кажу-ж вам, што за ўсякае пустое слова, якое скажуць людзі, дадуць яны адказ у дзень суда" (Мацьв. 12, 36).*

*Калі з кожнага слова трэба будзе здаць рахунак, што-ж казаць аб нашых учынках? Кожны з нас — грэшны. Бо калі і справядлівы 7 разоў у дзень грашыць, што-ж казаць аб нас слабых, грэшных людзях? Маючы столькі цяжару духоўнага на сумленьні, мусім адчуваць страх апошняга суда, мусім баяцца, каб паводле нашых учынкаў не апынуцца налева, каб ня быць асуджанымі навекі.*

*Што-ж нам рабіць? Пакуль жывем, яшчэ ня ўсё прапала, можам забясьпечыць сабе, пры помачы Божай, шчасьлівую будучыню.*

*Перш на перш мусім высьцерагацца на будучыню грахоў ды пакутаваць за даўнейшыя.*

*Апрача таго, калі жадаем, каб не асудзіў нас Ісус Хрыстос, мы павінны самі сябе судзіць. Судзім сябе, робячы штодзень іспыт сумленьня, і асабліва на споведзі. Мусім таксама асьцерагацца асуджваньня іншых. Сьв. Пісаньне кажа: „Не асуджайце, і ня будзеце асуджаны; дароўвайце, і вам даравана будзе" (Лук. 6,37).*

*Судзячы сябе, а ня іншых, мы бачым, што па справядлівасьці мы заслугоўваем вялікую кару. Страх праймае нашае сэрца, але дадае нам яшчэ сілы, ратуе ад роспачы надзея на міласэрдзе Божае. Гэтае міласэрдзе мы можам тутака на зямлі сабе выслужыць. Сягоньняшняе эвангельле паказвае нам, што толькі тыя будуць апраўданыя на страшным судзе, каторыя былі міласэрнымі. Вось і для нас няма іншага спосабу даступіцца Божага зьмілаваньня, міласэрдзя, як толькі праз міласэрдзе, праяўленае нашым бліжнім: „Шчасьлівыя міласьцівыя, бо яны будуць памілаваны" (Мацьв. 5,7).*

*Сьвятая Альжбета, графіня Тюрынгіі, якую, дзеля яе вялікае дабрачыннасьці, называлі „маткаю ўбогіх," пачула раз пытаньне, чаму так многа дае ахвяраў для бедных. Адказала: „Рыхтуюся на судны дзень." Сьвятая праўду сказала, бо Ісус Хрыстос казаў, што на апошнім судзе будзе пытацца аб учынках міласэрдзя. Хто хоча здаць матуральны экзамін, або які іншы, той пільна вучыцца цэлымі месяцамі, бо ад гэтага экзаміну залежыць яго будучыня. Яшчэ*

з большаю пільнасьцяю мы павінны рыхтавацца да экзаміну, які нас чакае на страшным судзе, ад гэтага экзаміну залежыць наша будучыня ня толькі дачасная але і вечная, шчасьце вечнае ў небе.

Бедныя заўсёды былі і будуць; асабліва ў нашыя сумныя часы шмат ёсьць такіх людзей, што ня маюць што ў рот улажыць, ня маюць чым прыкрыць нагату свайго цела ды забясьпечыцца ад холаду. Каб памагчы іншым, ня трэба мець шмат багацьця, маемасьці, але трэба мець толькі вялікае хрысьціянскае сэрца. Напрыклад, адведаць хворага, сказаць добрае слова, пацешыць, — нічога не каштуе, а бліжняму можа прынясьці вялікую прыемнасьць, даць сілы ў цярпеньнях. А калі падзелімся апошнім куском хлеба, дык Госпад Бог сам нас нагародзіць, нагародзіць шчасьцем вечным.

Усё, што робім для бліжніх у гэтым жыцьці дачасным, знойдзем калісьці ў вечнасьці.

Адзін багаты гаспадар разьвёў вялізарны сад. Увосень, прадаваў фрукты, з даходу сам жыў з сям'ёй ды іншым памагаў. Калі даваў беднаму ахвяру, дык заўсёды меў звычай казаць: „Перакідаю праз плот.“ Аднаго разу, пачуўшы гэтыя словы, яго прыяцель, пытаецца: „Што гэта абазначае, не разумею, калі ласка вытлумач“?

—„Калісьці, — кажа гаспадар, — было гэта ўвосень, ураджай Госпад Бог даў вялізарны, вельмі многа было грушаў ды яблыкаў у садзе. Круціліся каля саду хлопцы, вельмі ласыя на яблыкі. Паклікаў я ў сад гэтых хлопцаў ды кажу: Ідзеце ў сад, зьбірайце грушы ды яблыкі, ешце, колькі ахвоты, але з сабой нічога не бярэце, буду пільнаваць пры варотах, нічога не прапушчу.

Пайшлі хлопцы вельмі радыя ў сад, выбіралі найлепшыя грушы ды яблыкі і елі. Сумавалі толькі, што ня могуць з сабой забраць нічога да хаты, добра было-б пачаставаць сваіх меншых сёстраў ды братоў. Адзін з хлапцоў аднак схітраваў: калі ніхто ня бачыў, ён найлепшыя грушы ды яблыкі перакідаў праз плот. Ведаў, што там ніхто ня ходзіць, а ён пасьля знайдзе.

— Вось, — кажа гаспадар, — я раблю, як гэты спрытны хлапец: робячы ахвяру, я перакладаю добрыя ўчынкі на другі бок нашага жыцьця, да вечнасьці. Гэта ўсё пасьля знайду, гэта ўсё мне прыдасца.“

Праўда, што скончыцца для нас дачаснае жыцьцё, усё пакінем, што маем, толькі пайдуць за намі добрыя ўчынкі. Дык-жа стараймася, каб учынкаў гэткіх было якнайбольш, каб мы маглі цаною іх купіць сабе неба, вечнае шчасьце. Запраўды, „шчасьлівыя міласьцівыя, бо яны будуць памілаваны“ (Мацьв. 5,7). Амін.

а. Антоні.

*Усім нашым Вельмі Паважаным супрацоўнікам, чытачом ды працаўнікам для зьдзейсьненьня пажаданьня Ісусавага Сэрца, каб усе былі адно, у Новым 1936 Годзе жадаем ад шчырага сэрца багаслаўленьня Божага.*

*Рэдакцыя і Адміністрацыя „ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!“*

# Тайны Папскі Кансыстор.

## Прамова Сьв. Айца.

Тайны Папскі Кансыстор пачаўся 16 сьнежня м. г. а гадз. 9.40 пры ўдзеле 16 цёх кардыналаў курыяльных і арцыбіскупаў Парыжа, Бэсанкон, Вены, Нэапалю, Флёрэнцыі і Болёніі. На пачатку Папа сказаў гэткую прамову:

— Высокадастойныя Браты! — У апошні час ваша дастойная калегія мусіла нажаль аплакваць цяжкія і балючыя сконы слаўных і дастойных пурпуратаў. Перш за ўсё жадаем коратка ўспомніць Пётру Гаспарры і Францішка Эгрле, Першы ня толькі няўпынна працаваў над кодыфікацыяй канонічнага права для лацінскага касьцёла і пракладаў дарогу да кодыфікацыі права Усходняй Царквы, але праз даўжэйшы пэрыяд свайго жыцьця ўдзяляў Нам вартаснага і чыннага свайго супрацоўніцтва, як кардынал і сэкрэтар стану, з каторых то тытулаў слушна заслужыў на нашу ўдзячнасьць і агульнае дзіва.

Другі кардынал нязвычайна вучоны ў навуках касьцельных і сьвецкіх, быў так часта з намі ў контакце з рацыі студыяў, што ўжо гэтага матыву стае на выясьненьне, чаму мы яго гэтак высока цанілі. Таксама пры гэтых успамінах мусім назваць імя кардынала Міхала Лега, каторы сяньняшняй раніцы, як верым, перайшоў да вечнае хвалы. Злажыўшы гэту прыкрую даніну пачуцьцяў, ня маем замеру даўжэй над гэтым затрымоўвацца, ня гледзячы на тое, што ня было-б недастачы ў тэмах ці радасных, ці сумных. Што ня было-б недастачы ў тэмах радасных, то даволі будзе ўспомніць аб тых трыумфальных маніфэстацыях веры, з якіх галаўнейшыя мелі месца ў Люрдзе, Буэнос-Айрэсе, Клевэляндзе, Тыролі, Празе, Любляне, Ліме, дзе, за прыкладам душпастыраў, уладаў сьвецкіх і дастойнікаў, зьбіраліся нязьлічаныя масы народу. А што ня было-б недастачы ў тэмах сумных, дык стане дзеля перапоўненьня Нашага айцоўскага сэрца глыбокім болем гэткіх прыкладаў, як выпадкі, каторыя разьвіваюцца ў Расеі, Мэксыцы і часткова ў Ня-

меччыне. Ня хочам аднак пералічваць фактаў сумных, перш за ўсё ня хочам паказваць на тыя конфлікты, якія зьяўляюцца турботай ня толькі Эўропы і Афрыкі, але і ўсяго сьвету, бо пры гэткім сумным стане выпадкаў і людзей існуе



небясьпека, што Нашыя словы, якімі-б яны ні былі, або спаткаюцца з нядобрым зразуменьнем, або выгадна для сябе будуць перайначаны. Урэшце тое, чаго ў гэтай справе справядліва і праўна ад Нас чакаць можна адносна праў-

ды, справядлівасьці і міласэрдзя, ужо Мы шмат разоў абвяшчалі і ведаем, што словы Нашыя, выказаныя пры розных аказіях, гэтак шырока разносіліся прэсай, што не маглі не дайсьці да ведама тых, каторыя ня толькі жадаюць праўды, але дамагаюцца яе ад Нас шчыра і з жывым зацікаўленьнем. Хай гэта будзе прыпомненьнем тым, каторыя нібы дзівяцца і абураюцца, што нібы мы ня выпаўнілі Нашай боскай місіі — вучыцеля верных. Але, як не занядбалі мы ў прошласьці, не занядбаем у будучыні, як таксама і ў сучасны мамэнт аб'яўляць, а пакуль скончым нашу прамову, паўтараем урачыста ўсім людзям добрай волі, да якога-колечы краю належаць, што згодна з Нашым гарачым жаданьнем робім высілкі для ўтрыманьня міру і горача просім Бога аб гэткім міры, каторы лучыцца са справядлівасьцяй, праўдай і міласэрдзем. А цяпер пераходзім да ўлучэньня ў Ваш дастойны склад дзвацацёх дастойных пралатаў, заслужаных у каталіцкай справе, ці выпаўненьнем душпастырскага ўраду, ці залагоджваньнем важных місіяў і працаў у Рымскай Курыі, ці доўгаю і мудраю дзейнасьцю для большай хвалы Божай".

Пасьля папскай прамовы адбыўся акт прэконізацыі новых Япіскапаў, м. інш. Япіскапа Францішка Соніка, суфрагана келецкай дыецэзіі. Адначасна кожнаму з новакрэаваных кардыналаў уручаны білеты кардынала дзяржаўнага сэкрэтара з паведамленьнем аб крэацыі; адзін з найбліжэйшых прыяцялёў новых кардыналаў, у асысьце прадстаўнікоў іншых дастойнікаў, адчытваў гэтыя білеты перад кожным пурпуратам. Затым кожны з новых кардыналаў у кароткай прамове выразіў сваю падзяку, пасьля чаго пачалося складаньне гратуляцыі амбасадарамі, пасламі і кіраўнікамі конгрэгацыяў ды касьцельнымі інстытуцыямі.

У працягу вякоў кардыналамі былі толькі духоўнікі самога Рыму. Пасьля бывалі кардыналамі і духоўныя саноўнікі іншых краінаў. Толькі з 1439 г. кардыналамі былі назначаны ўсходнія ўладыкі: грэцкі — Вісарыён і маскоўскі— Ізыдар. Затым было тры кардыналы ўсходніх абрадаў аж у XIX ст. А цяпер, у XX ст., Папа Пій XI назначыў кардыналам Я. Э. Ігнацыя-Гаўрыіла Таппуні, патрыярха антыохійскага, сырыйскага абраду. Гэтае назначэньне вельмі ўцешыла ня толькі каталікоў, але і мусульман, а ўладар Іраку, дзе жыве нованазначаны ўсходні кардынал, паслаў Высокаму Номінату свае гратуляцыі, у Рым-жа — спэцыяльную падзяку.





**Я. П. Уладыка Мікалай, Апостальскі Візытатар.**

# Урачыстасьць у Каралеўскім замку.

4 студня с. г. у каралеўскім замку ў Варшаве адбылася цэрамонія ўручэньня П. Прэзыдэнтам кардынальскага бірэту Я. Эм. Кардыналу Мармаджы, Апостальскаму Пронунцыю. У ўрачыстасьці бралі ўдзел І. І. Эмінэнцыі ксяндзы кардыналы Какоўскі і Глёнд, І. І. Э. Э. ксяндзы архіяпіскапы Ропп і Гальль, а так-жа ксяндзы Япіскапы Шлягоўскі і Гавліна, сябры Мітрапалітальнай Капітулы, папскія пралаты і шамбэляны, дыплёматычны корпус і Мальтанскія Кавалеры.

Урад рэпрэзэнтаваў п. прэм'ер Зындрам-Косьцялкоўскі і п. п. міністры: Рачкевіч, Сьвентаслаўскі, Бэк, Буткевіч, Панятоўскі і падсэкрэтары стану, а армію гэнэральны інспэктар збройных сілаў, ген. Рыдз-Сьміглы. Па-за гэтым былі прысутнымі: старшыня Найвышэйшага Суда Супінскі, старшыня Н.І.К.П. Кшэмінскі, старшыня Н. Т. А. Гэльчынскі і інш. Па прыбыцьці Апостальскага Пронунцыя з будынку нунцыятуры ў замак, вайсковы гонар аддала прыбочная кампанія п. Прэзыдэнта, пасьля чаго шэф пратаколу гр. Ромэр увёў кс. кардынала Мармаджы са сьвітай

у замковую салю, дзе ў прысутнасьці Пана Прэзыдэнта Апостальскі Аблегат кс. пралат Пацїні прамовіў палацінску, характарызуючы заслугі Ксяндза Пронунцыя. Затым кс. Пронунцы са сьвітай удаўся да замковай капліцы. Па прыбыцьці і прывітаньні Пана Прэзыдэнта пачалася сьв. Імша, цэлебраваная Палявым Япіскапам. Сьпевы літургічныя выканаў хор духоўнай сэмінарыі. Пасьля сьв. Імшы Апостальскі Аблегат адчытаў breve сьв. Айца, аб назначэньні Кс. Нунцыя Мармаджы сябрам Кардынальскай Калегіі і ўручыў Пану Прэзыдэнту пурпуровы бірэт, каторы Пан Прэзыдэнт уласнаручна ўзлажыў на галаву Дастойнаму Номінату. Пасьля гэтай цэрамоніі Я. Эм. Кс. Апостальскі Пронунцы ў аўдыенцыйнай салі сказаў прамову, ў адказ на каторую прамовіў Пан Прэзыдэнт папольску, зазначваючы заслугі для Польшчы і лучнасьць Рэпрэзэнтанта Апостальскай Сталіцы з Польшчай, а такжа радасьць з прычыны высокай годнасьці, якой даступіў кс. Пронунцы. У сувязі з уручэньнем Я. Эм. Кс. Пронунцыю кардынальскага бірэту Пан Прэзыдэнт удзяліў Дастойнаму Номінату найвышэйшага польскага адзначэньня — ордэру Белага Арла.

## Ліга Моральнага Адраджэньня.

Віленскі ваявода дэцызыяй 5 кастрычніка мін. г. Л.Дз. С.П.П. (2 f) 120/35 упісаў у рээстр арганізацыяў пад № 1878 новую грамадзкую арганізацыю п. н. „Ліга Моральнага Адраджэньня."

У радох заклaдчыкаў гэтай арганізацыі фігуруюць прафэсары унівэрсытэту (пр. Канрад Гурскі, Станіслаў Сьвяневіч etc.), адвакаты (Руткевіч), пэдагогі (Дрыянскі), ксяндзы (Глякоўскі, Урмановіч) і інш. — Статут гэтага таварыства кароткі, але вымоўны. Мэта таварыства: „павышэньне моральнага роўня сярод агулу грамадзянства і вытварэньне этычнай атмасфэры, апіраючайся на асновах хрысьціянскай моральнасьці, спрыяючай духоваму разьвіцьцю падрастаючых пакаленьняў, а такжа процістаўленьне ўсякага роду праявам моральнага зьдзічэньня і ўпадку культуры, як у жыцьці індывідуальным, так і грамадзкім." Мэта гэтая, як кажа статут, мае рэалізавацца праз „дыскусіі на сабраньнях, зьездах і конфэрэнцыях на тэму этыкі тэорэтычнай і практычнай, разбуджаньне сярод грамадзян уражлівасьці на справы моральныя і супрацоўніцтва з адміністрацыйнымі ўладамі на дзялянцы барацьбы з публічнай немаральнасьцяй і порнографіяй; супрацоўніцтва са школамі, бацькоўскімі апекамі і г. д. А ўрэшце: „праз паглыбленьне сябе самых." Гэта апошняе лічым за фундамант, бо запраўды, хочучы зрабіць больш моральнымі іншых, трэба пачаць ад сябе самога. Тады толькі акцыя моральнага адраджэньня можа прынясьці пажаданыя рэзультаты.

## † Кардынал Люіджі Сінчэро.

У пятніцу 7 лютага с. г. памёр Кардынал Люіджі Сінчэро. Нябожчык радзіўся 26 сакавіка 1870 г. Высьвечаны ў 1892 г. У 1908 г. атрымаў годнасьць пралата і быў назначаны аўдыторам трыбуналу сьв. Роты. Пасьля сьмерці Папы Бэнэдыкта XV быў выбраны сэкрэтаром конклявы ў лютым 1922 г. У 1923 г. атрымаў годнасьць Кардынала, а ў 1927 г. назначаны прэзэсам сьв. Конгрэгацыі ўсходняе царквы. Пасьля сьмерці Кардынала Гаспаррі быў прэзэсам кодыфікацыйнае камісіі канонічнага права Ўсходняе Царквы.

Вечная яму памяць!

---

## † А. Гэнрык Пыдынкоўскі Т. І.

15 студня с. г. ў Калішы памёр а. Гэнрык Пыдынкоўскі Т. І. Нябожчык радзіўся ў 1847 г У сябры Таварыства Ісусавага ўвайшоў у 1876 г. У 1895 г. быў назначаны місіянэрам для уніятаў, пражываўшых у межах былое Расейскае дзяржавы. Час ад часу Нябожчык, пераапранены ў сьвецкую вопратку, рабіў місіянэрскія экскурсіі ў Падлясьсе, дзе сустрэчу яго уніятамі падрыхтоўвалі братчыкі манахі, паходзіўшыя з гэтых мясцовасьцяў. Пераапрачены ў цывільную вопратку, а. Пыдынкоўскі хадзіў ад вёскі да вёскі, хрысьцячы дзеці, слухаючы споведзі і служачы сьв. Літургію ўночы, пры чым заахвочваў верных да вытрымаласьці ў праўдзівай веры.

Нябожчык працаваў таксама, як місіянэр, і ў Румыніі. У апошнія гады свайго жыцьця ён часта падгатаўляў конвэртытаў з праваслаўя, каторыя прыяжджалі да яго з Расеі.

Вечная памяць гэтаму нашаму вернаму другу і супрацоўніку ў справе унійнае работы!







# Што прынёс 1935 год?

Пачатак 1935 году прынёс француска-італьянскае паразуменьне. Ляваль загасьціў у Рыме з мэтай пагоджаньня дзьвюх „лацінскіх сёстраў.“ Францыя адступіла Італіі больш як 100.000 кв. клм. Тунісу ў паўночнай Афрыцы, за што Італія загарантавала самастойнасьць Аўстрыі. Ляваль нібы даў Мусоліні згоду на вядзеньне вайны з Абісініяй.

Яшчэ ў сьнежні 1934 г. быў пагранічны інцыдэнт між вайсковымі аддзеламі Італіі і Абісініі пад Уаль-Уаль на тэрыторыі Абісініі. У студні м. г. пагранічныя бойкі паўтарыліся, маючы сваё далёкасяжнае значэньне. Італія абвясьціла часткова мобілізацыю і пачала высяляць сваё войска ўва ўсходнюю Афрыку. Абісінія свой конфлікт з Італіяй падала да ведама Лізе Нацыяў.

Насяленьне **Саары** пры плебісцыце ў 90 % выказалася за Нямеччыну. Праціўнікі гітлерызму, соцыялістыя і камуністыя, дзесяткамі тысячаў эміґравалі ў Францыю.

**Саветы** прадалі **Манджурыі** ўсходня-кітайскую жалезную дарогу за 140 міл. іенаў. **Японцы** ўвайшлі ў правінцыю **Джэголь.**

**Ў лютым** пачаліся дыплёматычныя паездкі. Францускі прэм'ер Фляндэн і мін. Ляваль адведалі Лёндан, дзе заключылі паразуменьне з Англіяй адносна нямецкіх збраеньняў і лёніцкага дагавору. — Параґвай выступіў з Лігі Нацыяў.

**У сакавіку** пачалася рэвалюцыя **ў Грэцыі** пад правадырствам рэспубліканца Вэнізэлёса, каторую аднак скора здушыў гэн. Кондыліс.

У **Нямеччыне** ўвялі агульную вайсковую службу. Амбасадары Англіі, Францыі ды Італіі зләжылі пратэст у Бэрліне.

Англ. міністры Саймон і Ідэн адведалі Парыж і Бэрлін, апрача таго Ідэн адведаў Маскву, Варшаву і Прагу.

Кароль **Сіаму** зрокся пасаду.

Ў **Польшчы** ўведзена новая конституцыя. Прэм'ерам па Казлоўскім застаўся палк. Славэк.

У красавіку ў **Стрэзе** адбылася конфэрэнцыя прадстаўнікоў Англіі, Францыі і Італіі, на каторай асуджаны былі збраеньні Нямеччыны. Ліга Нацыяў, асудзіўшы нямецкія збраеньні, зьвярнулася з нотай да Італіі і Абісініі, заклікаючы іх да згоды.

У траўні памёр маршалак Язэп Пілсудскі.

Пасьля візыту Ляваля ў Маскве падпісаны француска-савецкі дагавор.

У Англіі ўрачыста сьвяткавалі юбілей 25-годзьдзя панаваньня караля Юрыя V.

Італія адкінула кампрамісовае палагоджаньне спору з Абісініяй. Англія заключыла з Нямеччынай марскі дага-

вор, каторым прызнала Нямеччыне 35 проц. тоннажу свае флёты. Гітлер выказаўся проці абавязваючай моцы вэрсальскага трактату, лічачы яго несправядлівым для Нямеччыны. Ліга Нацыяў радзіла над мірным палагоджаньнем італьянска-абісінскага конфлікту.

**Ў чэрвені** былі ў Францыі і Англіі банкруцтвы габінэтаў. Прэм'ерамі сталі: Ляваль і Балдуін. Бэнэш адведаў Маскву і залажыў пачатак чэска-савецкага збліжэньня. Ідэн дамагаўся ў Рыме спыніць італьянска-абісінскі спор, аднак без рэзультату.

**Ў Югаславіі** Стоядзіновіч утварыў новы ўрад.

**Ў ліпні** Абісінія зьвярнулася да Злучаных Дзяржаваў Паўночнай Амэрыкі з просьбай аб інтэрвэнцыі на аснове пакту Кэльлёга, аднак Амэрыка адмовіла. Тады Абісінія выслала ноту да Лігі Нацыяў. Рада Лігі Нацыяў перадала справу камісіі. Нямеччына агаласіла сваю праграму марскіх збраеньняў.

**Ў жніўні** Італія абвясьціла мобілізацыю. Бэльгійская каралева Астрыда загінула, падчас самаходнае катастрофы, ў Швайцарыі. У Маскве адбыўся зьезд комінтэрну. Проці яго рэвалюцыйных пастановаў запратэставалі: Злучаныя Дзярж. Паўноч. Амэрыкі, Англія, Італія, Латвія і Японія. У Францыі былі крывавыя камуністычныя разрухі ў Брэсьці і ў Тулёне. Конфэрэнцыя Малой Антанты і балканскіх дзяржаваў у Бледы ў Югаславіі зрабіла засьцярогу проці павароту Габсбургаў у Аўстрыю.

**У верасьні** Ліга Нацыяў заклікала Італію і Абісінію стрымацца ад вайны. Англія выступіла ў Лізе Нацыяў у абароне Абісініі. У Польшчы адбыліся выбары ў сойм і сэнат. Італія аканчальна адкінула міравыя прапановы камітэту пяцёх. На Міжземным моры Англія пачала концэнтраваць сваю флёту.

На пачатку кастрычніка Італьянцы пачалі вайну з Абісініяй, займаючы Адую, Адыграт і Аксум. Ліга Нацыяў прызнала Італію нападчыкам. 50 дзяржаваў выказалася ў Лізе Нацыяў за гаспадарчыя санкцыі проці Італіі. Устрымаліся ад галасаваньня за санкцыі: Аўстрыя, Мадзяршчына і Альбанія.

Новы ўрад у Польшчы утварыў п.М. Зындрам-Косьцялкоўскі. Плебісцыт у Грэцыі выказаўся за паварот монархіі.

18-га лістапада м. г. пачаўся ў Варшаве вялікі палітычны працэс 12 маладых Украінцаў за забойства мін. Перацкага. Гэтага-ж дня ўвайшлі ў жыцьцё гаспадарчыя санкцыі проці Італіі, што спаткалася з пратэстам яе ўраду і насяленьня. Мусоліні адбыў вялікія манэўры на аўстрыйскай граніцы. Пры выбарах у Англіі перамагае нацыянальны блёк, зложаны з консэрватыстах, нацыянальных лібэралаў

і лябурыстах. Грэцкі кароль Юры II ізноў засеў на пасадзе.

У Францыі пачаўся г. зв. працэс Ставіскага. У Эгіпце паўсталі проціангельскія забурэньні. Італьянцы занялі значны абшар Абісініі бяз большага спраціўленьня. У Буэнос-Айрэсе падпісаны мір паміж Парагваем і Болівіяй. У Бразыліі загарэлася камуністычная рэвалюцыя, каторую аднак хутка здушылі.

**У сьнежні** Сойм і Сэнат прыняў закон аб амнэстыі для арыштантаў у Польшчы. Таксама ў Грэцыі, Югаславіі і Аўстрыі агалошана амнэстыя для палітычных арыштантаў. Прэзыдэнт Ч.С.Р. Масарык зрокся, а на яго месца выбраны Бэнэш. У Эстоніі зьліквідавалі пляновы фашыстоўскі пераварот. Марская конфэрэнцыя ў Лёндане стала на мёртвым пункце праз вымаганьні Японіі. Абісінцы пачалі контра-наступ. Плян пагоджаньня Італіі з Абісініяй Лявaля-Гора пахованы. Гор падаўся ў адстаўку пад націскам публічнай англійскай опініі. Новым англійскім міністрам замежных справаў назначаны Ідэн, прыхільнік далейшых санкцыяў. Уругвай сарваў дыплёматычныя зносіны з СССР і выдаліў савецкага пасла за камуністычную прапаганду і паддзержку бразылійскага паўстаньня.

**Агулам 1935 год** найбольш ад'значыўся гэткімі падзеямі: італьянска-абісінская вайна, экспансія Японіі на Далёкім Усходзе і адбудова нямецкіх збройных сілаў. Апроч гэтых ваенных змаганьняў былі роблены многія захады для уцьверджаньня міру.

Сьв. Айцец прамаўляў за мір.

Аўторытэт Лігі Нацыяў узрос, дзякуючы выступленьню яе проці Італіі.

У 1935 г. **Англія** перамагла крызыс і выявіла вялікую актыўнасьць у сусьветнай дзейнасьці.

У **Францыі** камуністыя з масонамі стварылі „нацыянальны фронт" проці патрыятычных лігаў. Даўней левыя былі за паразуменьне з Нямеччынай, цяпер наадварот: правыя хочуць згоды з Гітлерам.

**У Нямеччыне** адбываецца паступовая уніфікацыя. Распушчаны Штальгэльм і рад іншых арганізацыяў. Тотальная дзяржава абхоплівае ўсе галіны жыцьця. Каталіком і протэстантам нельга ўмешвацца ў палітыку, а палітыкай ёсьць усё, пачаўшы ад выхаваньня. Ад 1933 г. безработцце ўпала з 6 міл. да 2. Немцы здабылі перамогу ў Саары, ў клайпэдзкіх выбарах і ў Ч.С.Р. у судэтскіх краёх, адкінулі вэрсальскі дагавор. Збраеньні і публічныя работы далі працу безработным. Нюрэнбэрскія законы ўнармавалі палажэньне жыдоў у Нямеччыне. Калі ўзаемаадносіны з Англіяй і францыяй палепшыліся, то з ССРР пагоршыліся.

**У СССР.** у м. г. скасована картачная сыстэма. На вялікія фэрмэнты ў кампартыі паказвае: выдаленьне старога сэкрэтара Енукідзе, ліквідацыя Т-ва старых бальшавікоў, забойства Кірава і расстрэл многіх людзей з помсты. На месца інтэрнацыянальных клічаў прышоў „савецкі патрыятызм." Расейская мова абавязвае ўва ўсіх школах.

**У Польшчы** ўведзена новая конституцыя, катораая мае перабудаваць яе ў кірунку тотальнай дзяржавы. Дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту зьліквідаваны абніжкаю платаў урадоўцам. Наступіла некаторая паправа эканамічнага палажэньня: узрасла прадукцыя, апала безрабоцьце, збожжа падаражэла.

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.



**Альбэртынскі манастыр АА. Езуітаў віз.-слав. абраду.**

**Альбэртын.** У Альбэртыне айцы Езуіты прыступаюць да будовы 2 сьвятыняў: царквы уніяцкае і касьцёла лацінскага. Альбэртынская гміна ахвяравала на будову сьвятыняў дзерава з сэрвітуту. Гр. Пуслоўскі, што ўжо шмат зрабіў для альбэртынскага кляштару, цяпер ізноў ахвяраваў шмат будаўлянага дзерава ды 70,000 цэглы. Пасьля Вялікадня пачнецца работа.

Жыцьцё ў альбэртынскай парафіі разьвіваецца, да Касьцёла прыходзіць многа людзей, падабаюцца ўсім навукі а. настаяцеля Пётры Бужака. За апошнія месяцы навярнулася 20 чалавек. Пры кляштары адчынена чытальня і парафіяльная бібліятэка.

**У справе ўтварэньня каталіцкага япіскапства ў Горадне.** Шмат якія інстытуцыі і грамадзкія арганізацыі злажылі Я. Э. Кс. Архіяпіскапу Мітрапаліту Р. Ялбжыкоўскаму мэморыял у справе ўтварэньня каталіцкага япіскапства ў Горадне. Аўторы мэморыялу пішуць, што горадзенскі павет, традыцыйна групуючыся каля Горадна, адчувае брак рэпрэзэнтацыйнай улады р.-каталіцкай Царквы. Падкрэсьліваюць, што пры розных урачыстых выступленьнях мясцовай улады каталіцкае духавенства ня мае адпаведнага іерархічнага рэпрэзэнтанта. Дакумант канчаецца наступнай просьбай: „Каталіцкае грамадзянства Горадна мае гонар прадкласьці Вашай Эксцэленцыі найгарачэйшыя жаданьні паўстаньня р.-каталіцкай дыецэзіі ў Горадне для гравітуючых да гэтага места тэрыторыяў беластоцкага ваяводзтва, выдзеленых з сяньняшнай архідыецэзіі віленскай і дыецэзыі ломжынскай. Просьбу гэту складаем ад імя жыхарства да ласкавага падтрыманьня яе Вашаю Эксцэленцыяй."

**Адносіны „віцёўцаў"да каталіцкага Касьцёла.** Як ведама, з распаду „Centr. Zw. Młdz. Ludow." у 1928 г. паўстаў малады польска-сялянскі рух, згрупованы ў арганізацыі „Wici." Рэпрэзэнтуюць іх органы: „Siew" і радыкальны „Wici". Імкненьні „віцёўцаў" пазнаём з працы І. Клешчынскага п. з. „Dokąd idą młodzi." У галіне паглядаў грамадзка-гаспадарчых „віцёўцы" дэкларуюцца, як ворагі капіталістычнага ладу, пры адначасным вядзеньні барацьбы з камунізмам (зьезд у Кракаве 1934 г. ). Ідэолёгія аднак іх ёсьць выразна соцыялістычная і марксістоўская. На апошнім зьездзе дэлегатаў „Wici" ў Варшаве ў 1935 г. паміж іншым пастаноўлена наступнае: — „Фабрыкі, капальні, банкі, лясныя абшары ды большыя адзінкі зямельнай гаспадаркі перайдуць на ўласнасьць арганізаванага грамадзянства (дзяржава, самаўрад, коопэрацыя)." На гэтым самым зьезьдзе агалошана рэзалюцыя супрацоўніцтва „віцёўцаў" з соцыялістычнай моладзяй, арганізаванай ў Таварыстве Работніцкіх Унівэрсытэтаў (T.U.R.), што знаходзіцца пад кіраўніцтвам P.P.S.

Адносіны „віцёўцаў" да каталіцкага Касьцёла дзіўныя і неконсэквэнтныя; ў тэорыі нічога ня маюць проціў каталіцкай рэлігіі, у практыцы аднак квэстыянуюць выхаваўчую компэтэнцыю Касьцёла і выступаюць проці каталіцкай Акцыі. Каталіцкае выхаваньне, паводле іх, небясьпечнае, бо „вучыць пакорна зносіць лёс," а ім ходзіць аб стварэньне тыпу, здольнага сілай здабываць свае правы. Выразна бачым тут уплыў ідэолёгіі гітлерызму. „Віцёўцы" кажучы, што ім ня ходзіць аб барацьбу з каталіцкай верай, а адначасна падрываючы выхаваўчыя мэтоды Касьцёла, з якімі каталіцкая вера моцна лучыцца, — зьяўляюцца непасьлядоўнымі. Урэшце трэба адзначыць, што „віцёўцы" маюць дзьве да-

рогі: або ўлажыць сваю праграму згодна з навукай кась-цельнай іерархіі, каторай кожны веруючы каталік абавязаны падпарадкавацца, або контынуаваць свае памылковыя мэтоды ў адносінах да рэлігійных справаў далей, што, як загадзя можна прадбачыць, сапхне гэту арганізацыю на шляхі антырэлігійнасьці і бязбожніцтва.

**Дубно.** У дубненскай уніяцкай Царкве пры Папскай Сэмінарыі заўважваецца ажыўленьне: на сьвята бывала ў царкве часам па 300 душ. У гэтым годзе першы раз было адпраўлена багаслужэньне ўночы з 24 на 25 студня ст.ст.

А праф. Розэман ужо меў тры рэфэраты паукраінску на рэлігійныя тэмы. Людзей, асабліва праваслаўных украінцаў, зьбіраецца шмат, лекцыйная саля пры царкве заўсёды поўная народу.



Папская Сэмінарыя ўсх. абр. ў Дубне.

— А. Высакінскі ўладзіў для бедных дзяцей на сьвята Ражства Хрыстовага ёлку. Дзяцей з гораду сабралася каля 40, весела забавіліся і атрымалі крыху цукеркаў.

**Луцк.** Луцкі Япіскап назначыў а. Ніфонта Мядведзя настаяцелем да Антонаўкі на Валыні. Грэка-каталікамі ў Антонаўцы дагэтуль апекаваўся а. Дзекан Додэк, каторы ўступіў часьць прыходу ды асеў у Малых-Селішчах, пачаўшы ўжо там будову царквы і прыходзкага дому.

**Роўно,** на Валыні. У Роўным арганізуецца уніяцкая парафія. На Новы Год паводле старога стылю а. праф. Неманцэвіч паехаў да Роўнага ды адправіў там сьв. Літургію ў касьцёле. Народу сабралася шмат, каля 1000. Дзеля таго,

што былі там палякі, украінцы ды рускія, каб усіх задаволіць, а. Неманцэвіч сказаў навуку ў трох мовах.

**Бабровічы**, Косаўскага пав. 35 студня скончылася 10 гадоў істнаваньня уніяцкае парафіі ў Бабровічах. Ад самага пачатку аж па сяньняшні дзень настаяцелем там ёсьць пав. а. Б. Пачопка. Яго ахвярнаю працаю бабровіцкая парафія ня толькі ўтрымалася, але ўвесь час пашыраецца. Знаюць уніяцкага Бацюшку з Бабровіч і суседнія праваслаўныя прыходы, хацелі-б, каб ён да іх перанёсься, а ня можа пакінуць сваіх і таму чакае на падмогу. Бабровіцкаму уніяцкаму прыходу жадаем шчасьлівага разьвіцця ды багаслаўленьня Божага.

**Заставе** ля Міжырэчча, на Валыні. А. Гадуцэвіч працуе, хоць сам беларус, для украінцаў на Валыні ў Заставі. Жыцьцё рэлігійнае буйна там разьвіваецца. Вельмі шмат зрабіў ды зблізіў людзей да Сьв. Уніі а. Гадуцэвіч прадстаўленьнямі. На сьвята ставіў: „Ноч над Віфлеемам“ ды драму: „Сьвякруха.“ Людзі былі ачарованы, з вялікім захопленьнем слухалі прадстаўленьняў.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Камісія па выданьню літургічных кніг.** У студні месяцы с. г. аканчальна была сфармована камісія па выданьню літургічных кніг, у склад якое ўвайшлі: Монсіньёр Россо, як прэзэс, АА. Сіпягін, Брашко, Каралеўскі, Кроле— настаяцель манастыра ў Грота-Фэррата,—а. Тышкевіч, а. Швэйгль і а. Пілiп дэ-Рэжы.

**Унійны Конгрэс.** Каталіцкая арганізацыя „Апостальства сьв. Кірылы і Мэфодыя,“ створаная яшчэ перад вайной славацкім япіскапам Слёмсэкам і кс. Стоянам, (каторы у 1920 г. быў назначаны арцыбіскупам Оломунца), маючая мэтай зближэньне каталіцкага Касьцёла з праваслаўнай Царквой, мае склікаць вялікі конгрэс Уніі ад 15 да 19 ліпня б. г. Конгрэс гэты мае адбыцца ў Вэлеградзе, дзе прабываў сьв. Мэфоды, апостал Славян. Усе ранейшыя конгрэсы, арганізованыя Апостальствам сьв. Кірылы і Мэфодыя (а было іх шэсьць), адбываліся таксама у Вэлеградзе. Сёлетні сёмы конгрэс мае ўшанаваць памяць сьв. Мэфодыя з аказіі 1050-лецьця яго сьмерці. Конгрэс падзеліць свае абрады на тры сэкцыі: догматычную, літургічную і гістарычную. Старшынёй будзе Арцыбіскуп Оломунца монсіньёр Прэціні.

**Укрыжаваньне Касьцёла ў Мэксыцы.** Пад такім загалоўкам (Crucifixion of the Church in Mexico) падае „The Universe“ за 27 сьнежня мінул. г. вось якія факты: — „Ад 1926 г. мэксыканскі ўрад забіў 300 сьвяшчэньнікаў, а сьвецкіх каталікоў ад 1929 г. забіта каля 5.000. У рэзультаце ўвядзеньня антырэлігійных дэкрэтаў, 7.000.000 каталікоў

у Мэксыцы пазбаўлена сьвятых тайнаў і духоўнай помачы з боку сьвяшчэньнікаў. На агульную лічбу 29 мэксыканскіх штатаў, з 14 штатаў зусім выдалены каталіцкі клір. У працягу чатырох гадоў зачынена 265 касьцёлаў.



**Вільля Рускай Рымскай Калегіі.**



**Гадунцы Рускай Рымскай Калегіі.**

**У Калегіі „Russicum.“** Паступілі ў рымскую калегію „Russicum“ новыя студэнты: Т. Каваленко і князь С. Оболенскі, былы бэнэдыктынец з Амэ ў Бэльгіі.

# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Што значыць добрая падгатоўка да першага Сьв. Прычасьця.

У другой палавіне XIX стагодзьдзя настаяцель аднаго вялікага прыходу гатовіў дзяцей да першага Сьв. Прычасьця. Старанлівы пастыр рупіўся ня толькі аб тым, каб дзеці былі, як трэба, навучаны, але стараўся яшчэ і аб прыгатаўленьні боскаму Збавіцелю дастойнае сядзібы ў маленькіх сэрцах.

Жыхары прыходу прабывалі ў ім нядоўга; шмат хто з іх адходзіў туды, дзе можна было знайсьці лепшую рабо-

ту. Руплівы настаяцель знаў усіх сваіх прыхаджанаў, а асабліва дзяцей-першапрычасьнікаў. Адным з тых, чыё павядзеньне дастаўляла яму шмат клопатаў, быў Пётра Сіт. Бацькоў ён пазбавіўся колькі гадоў назад. З таго часу жыў ён на кошт воласьці ў аднае жанчыны благога павядзеньня. Пазнаёміўшыся з двама хлапчукамі, ня толькі шурмаваў з імі парознаму, але нават краў. Дасюль яшчэ ніхто ня мог іх на чым-нібудзь злавіць, але настаяцель вельмі добра разумеў, як выглядае справа з Пётрай, і дзеля гэтага ён ужыў усе магчымасьці на тое, каб у часе падгатоўкі да Сьв. Прычасьця зрабіць на яго якнайбольш карысны ўплыў.

Калі падгатоўка была закончана, дык вызначаны быў дзень урачыстасьці — 25 сакавіка.

У сваёй прамове, папераджаўшай узнаўленьне абету хросту, настаяцель сказаў пра геройскую сьмерць сьв. Тарзіцыя, прынёсшага ў ахвяру жыцьцё сваё для Хрыста, Каторага хлопчыкі, ідучы да Прычасьця, прымаць будуць у свае сэрцы, і закончыў прамову заклікам быць вернымі ад гэтага часу Збавіцелю і хутчэй нават пайсьці на ахвяру жыцьця свайго, чымсь выкінуць Яго з сэрца. Урачыстасьць прайшла якнайлепш. Дзеці, шчасьлівыя, разыходзіліся па хатах з глыбока прачутымі словамі: „Ісусе, Табе жыву, Ісусе, Табе паміраю; Ісусе, я Твой і ў жыцьці і ў сьмерці“, каторыя былі тры разы прапяяны на малебне ў канцы ўрачыстасьці.

Бедны Пётра вяртаўся адзін, ідучы сваёю дарогаю, тады як усе яго кампаны ішлі з сваімі сваякамі. Раптам прылучыўся да яго адзін з яго ранейшых таварышаў, кажучы:

— Ну, Пётра, уся гэтая гісторыя цяпер скончана і спадзяюся, што ты прыдзеш увечары да нас у лес.

— Якая гісторыя? Ты-ж ведаеш, што адсюль я рашыў вясьці людзкае жыцьцё.

— Якая дурната! Пачакай, заўтра ты будзеш казаць іншае. Я ведаю гэта з практыкі. Гэтымі днямі я прыйду па цябе. Тут шмат людзей; могуць што-нібудзь падслухаць. Але ты ведаеш ранейшыя нашыя ўмовы. Бывай!

— Ня турбуйся дарма,— хацеў сказаць яму Пётра, але знаёмы яго ўжо адыйшоў.

Ранейшыя адносіны з сапсованымі таварышамі трэба было скончыць. Пётра рашыў цьвёрда не чапаць болей чужога дабра.

Аднае наступнае ночы пад вакном Пётравага пакою пачуўся нейкі голас:

— Пётра! Пётра!

Голас быў знаёмы. Пётра не адказваў, а толькі прыціснуў да вуснаў атрыманы ад настаяцеля мідалік Сэрца Ісусавага і паўтараў малітву: „Памажы, Спасе наш, каб я не грашыў болей і не пазбавіўся Цябе“, — не зьвяртаючы ўва-

гі на стукат. Але гэты ўпірысты стукат разбудзіў гаспадыню, якая ўвайшла ў Пётраў пакой, кажучы:

— Ды паглядзі-ж ты, што там на вуліцы!

Пётра ўстаў, падыйшоў да вакна і прачыніў яго.

— Выходзь хутчэй! мы знайшлі тое, што можа лёгка трапіць у нашыя рукі, але трэба нам усім тром быць там.

Пад вакном стаялі яго ранейшыя таварышы, замерваючыся нахіліць яго на новую кражу.

— Я не пайду з вамі. Не хачу больш грашыць сьвядома.

— Дурная галава! Табе ня трэба будзе красьці. Ты будзеш толькі вартаваць.

— Не, я гэтага не зраблю, таму што і вартаваць таксама будзе грэх.

Сказаўшы гэта, ён зачыніў вакно. У той-жа самы мамэнт камень разьбівае шыбу ў вакне і пападае ў яго галаву, а ён падае няпрытомны на падлогу. На крык гаспадыні зьбягаюцца жыхгры дому. Нейкая жанчына з верхняга паверху абмыла рану і перавязала яе. Пётра заставаўся яшчэ няпрытомным. Толькі губы варушыліся, а ён быццам цьвярдзіў адно: «Ісусе, Табе жыву! Ісусе, Табе паміраю! Ісусе, я Твой і ў жыцьці і ў сьмерці».

Была ўжо позная ноч. У гэты час зыйшліся ў беднай кватэры ўбогага дому настаяцель прыходу і лекар. На беднай пасьцелі ляжаў няпрытомны Пётра.

Лекар, парадзіўшыся з настаяцелем, рашыў, што Пётру трэба адаслаць у бальніцу.

Аглядзеўшы рану, лекар заявіў, што хоць яна і глыбокая, але можа быць вылечана пры добрым даглядзе.

Пасьля залячэньня раны, Пётру аддалі ў сіроцкі дом. Там ён быў да сканчаньня школы; за добрае павядзеньне яму пазволілі быць у сіроцкім доме яшчэ і ў часе вывучваньня ім рамясла.

Цераз тры гады ён здаў экзамін на падмайстра.

Прыйшоў час вайсковае службы, пасьля якое Пётра паступіў у сябры місійнага ордэну, быў братчыкам-манахам і шмат зрабіў дзеля збаўленьня дзіцячых паганскіх душаў.

Калі, пасьля доўгага часу, былому настаяцелю, атрымаўшаму вестку аб пладатворчай дзейнасьці Пётры, хтосьці сказаў:

— Яго ўратавала добрае першае Прычасьце, — дык настаяцель адказаў:

— Але, але! А лепш было-б сказаць, што яго ўратавала добрая падгатоўка да гэтага першага Прычасьця.

---

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.